© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

27 чэрвеня 1998 года
СУБОТА
№ 49 (129)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

## Пасля выпускнога балю...

*Першы месяц лета заўжды супадае з экзаменамі ў школах. Іспыты — справа сур'ёзная. Яны вымушаюць вучняў 9-х і 11-х класаў сабрацца з сіламі, успомніць многае, чаму навучыліся за партамі. Экзамены — гэта ацэнка іхняй нялёгкай дарогі, пройдзенай за гады вучобы.*

*18 адзінаццацікласнікаў Стайкаўскай сярэдняй школы паспяхова прайшлі экзаменацыйны марафон. Учора ў школе прайшоў выпускны баль, юнакі і дзяўчаты разам з кветкамі атрымалі пасведчанні аб сярэдняй адукацыі. Цёплыя праводзіны. Сустрэча першага світанку незнаёмага самастойнага жыцця. Бывай, школа!*



*НА ЗДЫМКУ: адзінаццацікласнікі Стайкаўскай СШ пасля выпускнога балю.*
*Фота А. ГАНЧУКА.*

## Піце на здароўе

Даждж чакалі, але не такога. Ліўні, што абрынуліся на тэрыторыю Мілейкаўскага сельсавета, нарабілі бяды: падтапілі жылыя дамы і гаспадарчыя пабудовы, у многіх месцах размылі дарогі, у аднаго гаспадара ўтапілася свіння, каровы хадзілі па вадзе і дастаўалі яе пузам...

Напоўніліся вадой калодзежы колькі мажліва. Супрацоўнікі раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі адразу, як кажуць, па гарачых слядах наведалі вёскі сельсавета. У Мілейках, Сакоўцах і Бусяжы ўзялі на даследаванне 88 пробаў калодзежнай вады. І жахнуліся: толькі ў адной студні вада адпавядала прынятым стандартам, у астатніх, 87-і, яна аказалася бруднай, якую выкарыстоўваць у якасці пітной нельга. Каб не сеяць паніку, з дапамогай пажарных машын вада выпампавана і зроблена хлараванне калодзежаў. Аперацыя — не з прыемных. Але яна зроблена, не пабаймся гучных слоў, дзеля здароўя вяскоўцаў.

БЯРОЗА

## Свята на плошчы

Экзаменацыйны марафон у школах закончыўся і настала чарга балям.

Свята выпускнікоў праведзена на плошчы імя Леніна ў райцэнтры. Пад гукі духавога аркестра ўступілі на яе юнакі і дзяўчаты. У іх гонар узнялі дзяржаўны сцяг рэспублікі, выпускнікоў віталі старшыня райвыканкама І. Малейцін, прадстаўнікі грамадскасці, бацькі, педагогі, юныя артысты. Медалістам ад імя райвыканкама ўручылі каштоўныя падарункі.

Сёлета закончылі школу з залатым медалём 26 выпускнікоў, з сярэбраным — 47. Найбольш "золата" ў былых вучняў СШ № 2 г. Бярозы — 8. "Срэбра" — у рабят СШ № 2 г. Белаазёрска: з 51 выпускніка — 13 медалістаў.

## Сумная сенсацыя. Працяг

Як паведамлялася ўжо ў нашай газеце, 27 выхаванцаў дзіцячага садка "Алеся" г. Івацэвічы трапілі на бальнічны ложак. Усе яны захварэлі на іесірніёз — вострае кішэчнае захворванне. Як паказала праверка, дзеці атруціліся салатай з морквы. Гэтую гародніну трэба было перад прыгатаваннем ашпарыць кіпнем, чаго не зрабілі кухары.

Што зроблена пасля гэтага сумнага выпадку? Шэф-повар Н. Карпенка і повар В. Пархута звольнены з работы. Загадчыца садка Т. Бабарыцкай і медсястры Т. Кузьміч аб'яўлены строгія вымовы. У бальніцы цяпер праходзяць курс лячэння апошнія 5 дзяцей, якія раней лячыліся дома і недалячыліся. Захварэла на іесірніёз нянька дзетсадка, якая таксама паела злашчаснай салаты. Больш за месяц садок зачынены, і пакуль апошняе дзіця не пакіне бальніцу, ён будзе пуставаць. У панядзелак у дашкольнай установе пабывала аўтарытэтная камісія і пацікавілася, якія прафілактычныя меры зроблены, каб у далейшым сумная сенсацыя не паўтарылася.

Як сказалі карэспандэнту "Газеты для вас" у раённым цэнтры гігіены і эпідэміялогіі, успышка іесірніёзу ў іншых садках не зарэгістравана. Толькі вось "Алесі" не пашанцавала.

БАРАНОВИЧИ

## Нашел пистолет? Ну и гуляй!

Пятидесятивосьмилетний житель Барановичей спьяну "игрался" у магазина самодельным малокалиберным пистолетом-авторучкой. А та возьми и выстрели в кисть правой руки. "Скорая помощь", милиция, больница, допрос. "Нашел, — говорит, — на дороге, попробовал щелкнуть..." "Нашел? — спросили следователи. — Ну и гуляй дальше". Пистолет отобрали. Уголовного дела не открыли. Подумаешь, какое-то там самодельное огнестрельное оружие по улицам валяется. Мало ли его в городе, настоящего.

*ДА ВЕДАМА НАШЫХ ПАДПІСЧЫКАЎ!*
*У сераду, 1 ліпеня, у "Газеты для вас" — планавы нявыхад. Наступны нумар выйдзе на 8-мі старонках у суботу, 4 ліпеня.*

*СЕРДЕЧНО ПОЗДРАВЛЯЕМ*



*Симпатичную и обаятельную ЧУЙКО Татьяну Николаевну из г. Ивацевичи поздравляем с 21-м днем рождения. Здоровья крепкого тебе, Танюша, и счастья!*

*Пусть все цветы к ногам твоим падут,*
*Пусть звезды в изумруды превратятся,*
*Пусть все печали, горести уйдут,*
*Пусть в этот день мечты твои свершатся.*

*Друзья по автошколе БелОСТО.*

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Акция депутатов

***Возле здания Генеральной прокуратуры Республики Беларусь собралась группа депутатов Верховного Совета: Г. Карпенко, С. Богданкевич, А. Добровольский, А. Лебедько, Л. Грязнова, В. Щукин и П. Знавец.***

На имя Генерального прокурора они вручили письмо, в котором выражено требование немедленного освобождения депутата Верховного Совета Андрея Климова. Депутаты считают задержание и содержание под стражей своего коллеги "грубейшим нарушением законодательства, депутатского иммунитета и наглядным примером попрания конституционных прав человека". От прокуратуры депутаты прошли с плакатами "Свободу Андрею Климову", "Свободу Владимиру Кудинову" и "Прекратить репрессии" через проспект Франциска Скорины к МВД. Здесь письмо с аналогичным содержанием было передано для министра внутренних дел. Акция депутатов Верховного Совета завершилась возле хорошо известного здания на улице Володарского, где сейчас содержится А. Климов.

## Ёсць шанц знайсці новых бацькоў

***Беларускі ўрад зноў дазволіў замежным грамадзянам усынаўляць беларускіх сіротаў, папярэдне распрацаваўшы новыя правілы гэтай працэдуры.***

Яны прадугледжваюць строгі дзяржаўны кантроль за падборам прыёмных бацькоў за мяжой і за далейшым выхаваннем імі беларускіх дзяцей. Прэтэндаваць на сірот могуць грамадзяне толькі тых краінаў, з якімі Беларусь мае адпаведныя дамоўленасці. Нядаўна такое пагадненне падпісана з Італіяй. Беларускіх дзяцей усынаўляюць таксама сем'і ў ФРГ, Швецыі і Даніі.

Беларускі ўрад аддае замежным сем'ям толькі тых сірот, якія не маюць шанцаў знайсці прыёмных бацькоў на радзіме — па прычыне хваробы або інваліднасці.

## Ліпеньскія пенсіі: лічбы вядомыя

***У сувязі з ростам заробкаў рабочых і служачых у краіне ў ліпені будуць пералічаны пенсіі.***

Сталі вядомы канкрэтныя лічбы. Так, у сярэднім працоўныя пенсіі ўзрастуць на 17,5 працэнта (да 1 млн. 820 тыс. рублёў).

Памер максімальнай працоўнай пенсіі (пры стажы 45 гадоў у мужчын або 40 гадоў у жанчын і каэфіцыенце заробку не менш як 1,3) павялічыцца на 18 працэнтаў і складзе 2 млн. 190,9 тыс. рублёў. Мінімальныя пенсіі ўзрастуць усяго на 8,1 працэнта — гэта значыць, што ў ліпені "мінімальшчыкі" атрымаюць па 900 тыс. Апроч таго, як стала вядома, у наступным месяцы плануецца правесці індэксацыю на 14,3 працэнта так званых "сацыяльных" пенсій.

## Новы парадак

***Рашэннем праўлення Нацыянальнага банка Беларусі з 19 чэрвеня ў рэспубліцы часова ўстанаўліваецца новы парадак куплі-продажу замежнай валюты.***

Купля і продаж упаўнаважанымі банкамі долараў ЗША, нямецкіх марак, расійскіх рублёў і ўкраінскіх грыўнаў па даручэнні і за кошт сродкаў прадпрыемстваў, а таксама ад свайго імя і за свой кошт праводзяцца толькі на таргах Міжбанкаўскай валютнай біржы. Па-за біржай могуць прадаць пералічаныя валюты прадпрыемствам у суме не больш за 3000 адзінак па адным кантракце; пры гэтым разбіўка агульнай сумы кантракту, па якім ажыццяўляюцца разлікі, не дапускаецца. Адначасова банкі могуць купіць па-за біржай у прадпрыемстваў пералічаныя віды замежных валют у суме не больш за 1000 адзінак. Гэты парадак не распаўсюджваецца на здзелкі па іншых валютах, а таксама на куплю-продаж замежнай валюты банкамі і юрыдычнымі асобамі, якія маюць ліцэнзію Нацыянальнага банка на правядзенне валютаабменных аперацый за кошт асабістых сродкаў грамадзян.

*(Па старонках рэспубліканскіх газет)*

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



● ЗАЎТРА — ДЗЕНЬ МОЛАДЗІ

# Каб казку зрабіць быллю

*З моладдзю мы заўсёды звязваем свае надзеі, будучыню. Творчая думка, няўрымслівасць, смелы погляд у заўтра — вось тыя рысы, якія характэрны сёння большасці юнакам і дзяўчатам, што заканчваюць івацэвіцкія сярэднія школы. Паслухаем разважанні маладых. І парадуемся, што яны не такія, якімі мы былі калісь.*

**Саша.** Мне хацелася б стаць моцным, свабодным і забяспечаным чалавекам, бо ён сам здольны рашаць свае праблемы і несці адказнасць за сябе і сваіх блізкіх. Такіх людзей я бачу ў асобе прадпрымальнікаў. Гэтыя людзі, не спадзеючыся на дзяржаву, самастойна забяспечылі сябе рабочымі месцамі і падтрымліваюць яшчэ саму дзяржаву ў выглядзе падаткаў.

Я бачу, што на такіх людзей наша дзяржава пакуль не абапіраецца, ёй патрэбны залежныя і бедныя людзі. Тымі, хто стаіць перад ёю з працягнутай рукой, кіраваць лягчэй. На свабоднага чалавека "цыкнуць" складаней. Разумею, будзе цяжка "казку зрабіць быллю", але каб ажыццявіць свае планы, спачатку пастараюся паступіць у эканамічны ўніверсітэт, каб атрымаць грунтоўныя веды па эканоміцы, а потым пастараюся адкрыць сваю справу.

**Алена.** Я мару стаць касметолагам і адчыніць у нашым горадзе касметычны салон. Нашы жанчыны заслугоўваюць таго, каб пра іх клапаціліся прафесіяналы. Жанчыны павінны заўжды быць прыгожымі, бо кожная жанчына — абавязкова кімсьці каханая.

**Таня.** Я паспрабую паступіць у педагагічны інстытут. Ведаю, што цяпер культ ведаў абясцэніўся, але разлічваю, што пакуль буду вучыцца, у грамадстве зменяцца адносіны да школы, да настаўніка.

**Дзіма.** Я некалькі прадоўжу маналог Сашы наконт дзяржавы. Яе палітыка, на мой погляд, у адносінах да сваіх падначаленых зарыентавана на тое, каб падпарадкаваць іх і паставіць у сваю залежнасць. У падсвядомасць грамадзян закладваецца думка, што дзяржава ўсё ведае і ўсё вырашае, а яе кіраўніцтва — святое і недатыкальнае. Крытыкаваць уладу нельга, яе трэба толькі баяцца. Наш асноўны прынцып "сядзі ціха і не высоўвайся", дзяржава за цябе сама падумае. Мне такое не па душы. Я буду ўдзячны дзяржаве, каб яна не перашкаджала мне зарабляць самастойна сабе на хлеб. Я хачу стварыць сваю фірму, быць у ёй гаспадаром. Дзеля гэтага патрэбны эканамічныя веды, таму, як і Саша, буду паступаць у эканамічны ўніверсітэт.

**Зоя.** Мае жаданні сціплыя — удала выйсці замуж. Няхай мой будучы муж думае пра тое, каб наша сям'я не гаравала, мела моцны матэрыяльны базіс. Мой жа абавязак, як жонкі і маці, думаць, што зварыць на абед, адпрасаваць мужу беласнежную кашулю, выхоўваць дзяцей.

**Андрэй.** Паверыце ці не, але мне не даюць спакою лаўры Леаніда Якубовіча. Мне хочацца стаць вядучым тэлепраграмы "Поле цудаў". Спадзяюся, што Леанід Якубовіч пойдзе на пенсію, і я стану яго пераемнікам. Марныя мары? Магчыма. Аднак не збіраюся, як Абломаў, ляжаць на канапе і марыць-марыць... Буду паступаць у БДУ — там моцная каманда КВЗ, пастараюся трапіць у яе.

## КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ЛЮДМИЛА, 17 лет. Любимый певец — Дмитрий Маликов. Любимый актер — Мел Гибсон. Люблю, когда за мной ухаживают. Очень люблю проводить время в веселых, шумных компаниях. В парнях очень ценю честность и уверенность в себе.*

**Марына.** Я збіраюся стаць медсястрой. Такую прафесію абрала мая маці і старэйшая сястра. Праўда, яны адгаворваюць мяне, лічаць, што больш няўдзячнай справы, чым сястрынская, няма на свеце. Але калі падумаеш: а хто ў нашым грамадстве, акрамя чыноўнікаў, цэніцца? Ніхто, усе атрымліваюць смехатворныя зарплаты.

Думала падаваць дакументы ў Баранавіцкае медвучылішча, аднак там трэба здаваць уступныя экзамены. Таму падамся ў Пінскае — там умовы лягчэйшыя: трэба прайсці толькі субяседаванне.

***Вось такія планы ў поўных сіл і энергіі маладых. У чымсьці смелыя і рызыкоўныя, у чымсьці — прагматычныя. Хай збудуцца яны, хай лёс будзе добразычлівым да ўсіх выпускнікоў. Хай кожны з іх знойдзе сваё месца пад сонцам.***

*А. ЛАЎРАНЮК.*

● ДЗЯРЖАВА І МЫ

# Дарожны збор: плаці не спяшаючыся?

Аўтааматары Івацэвіч, Баранавіч, Бярозы як законапаслухмяныя грамадзяне, напэўна, спраўна выплачвалі дарожны збор, які ўведзены пастановай урада з мінулага года. Вялікая колькасць пытанняў, узнікшая пасля ўвядзення гэтай пастановы, прымусіла ўладу падкарэкціраваць яе.

Незадаволенасць аўтааматараў выклікала не толькі сама сума дарожнага збору, але яе поўная неабгрунтаванасць. Чаму, напрыклад, уладальнік "Запарожца" або "Таўрыі" павінен плаціць такую ж суму, як і ўладальнік "Мерседэса" ці "Форда"?

Гэтая акалічнасць была ўлічана амаль цераз год, у сярэдзіне сёлетняга года, калі выйшла "Палажэнне аб парадку фарміравання і выкарыстання сродкаў рэспубліканскага дарожнага фонду ў 1998 годзе".

Цяпер ужо дыферэнцыяцыя ў аплаце выходзіць на першы план. Аўтаўладальнік "Запарожца" (магутнасць рухавіка да 40 конскіх сіл) вымушаны плаціць адну "мінімалку", уладальнік машыны магутнасцю ад 40 да 100 к. с. (ВАЗ) — паўтары, ад 100 да 150 к. с. — тры, а звыш 150 к. с. — аж пяць мінімальных зарплат. Пенсіянерам па ўзросту даецца 50-працэнтная скідка.

Самае цікавае, што тым, хто заплаціў дарожны збор у поўнай меры, пераразлік рабіцца не будзе. Выгадаў той, хто асабліва не спяшаўся плаціць. Выходзіць, у нашай дзяржаве нявыгадна быць законапаслухмяным. Многія і многія аўтааматары засталіся з носам.

Чаму палажэнне выпушчана ў сярэдзіне года, калі большасць сродкаў ад насельніцтва ўжо атрымана? Аб гэтым можна толькі здагадвацца. Сацыяльная справядлівасць, пра якую ўспомнілі дзяржчыноўнікі, атрымалася вельмі ўжо спецыфічнай.

*А. ГОРБАЧ.*

# Злёт турыстаў

На маляўнічым беразе возера Гошча сабраліся 30 каманд на злёт турыстаў Івацэвіцкага раёна. Яны спаборнічалі ў пераадольванні паласы перашкод, хаджэнні па азімуту, конкурсе мастацкай самадзейнасці. Па найбольшай колькасці ачкоў першае месца прысуджана камандзе СШ № 4 г. Івацэвічы.

*Л. САШЫН.*

## СЕРДЕЧНО ПОЗДРАВЛЯЕМ



*Добрая, милая, любимая наша мамочка и бабушка Мария Федоровна КУЗЬМИЧ из д. Мироним!*

*Прими наши найлучшие пожелания в день своего 70-летия. Спасибо тебе за работу и заботу, за то, что ты есть.*

*Храни тебя Бог!*

*У человека радости не так уж много,*
*И счастье не всегда приходит в дом его,*
*Но день рожденья входит в жизнь особо —*
*Торжественно, таинственно, светло.*
*Пусть не года растут, а счастье,*
*И радость будет спутницей всегда,*
*Пусть будет счастья больше, чем ненастья,*
*Пусть будет жизнь улыбками полна.*

*Дочь Нина, сыны Федор и Василий, зять Адам, невестки Надежда и Татьяна, внуки Денис, Ольга, Татьяна, Светлана, Александр, Сергей и Игорь.*





*Добры і дарагі муж Іван Іванавіч СКУРЧЫК з вёскі Чамялы! Прымі мае найлепшыя пажаданні ў дзень твайго юбілею — 70-годдзя. Будзь заўжды здаровым і шчаслівым.*

*Жадаю часта ўсміхацца,*
*Па дробязях не засмучацца,*
*Не нервавацца, не хварэць,*
*Шчаслівым быць і не старэць.*

*Жонка Марыя Пятроўна.*





*Сердечно поздравляем с днем рождения уважаемую Тамару Александровну РУСАК из г. Ивацевичи. Желаем здоровья, счастья, успехов, молодости души, оптимизма и задора.*

*Пожелаем, чтоб жизнь не бросала,*
*Чтоб легко было в жизни идти,*
*Много счастья, здоровья желаем,*
*Много радости, смеха, любви.*
*Доброты, красоты пожелаем,*
*Исполненья заветной мечты.*
*Век живи, век твори, не стесняйся*
*Глупых фраз и завистливых слов.*
*Помни: жизнь — это вечная тайна,*
*Нежность, ласка, забота, любовь.*

*Друзья, коллеги.*





*Поздравляю дорогую подругу Валентину Петровну ТИМОШЕВИЧ из г. Ивацевичи с днем рождения. Желаю тебе свежих сил и бодрости, желаю выглядеть всегда такой же молодой и обаятельной, быть веселой и жизнерадостной.*

*Желаю добрых и спокойных снов,*
*Тепла желаю в стужу и ненастье.*
*И без красивых пышных слов —*
*Простого человеческого счастья.*
*Что желается, то пусть сбудется,*
*Что не ладится, пусть забудется.*
*Пусть хорошее дальше множится,*
*Пусть удачно все в жизни сложится!*

*Таиса.*

☎ АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# Абвалілася сцяна ў падвале

*— Я жыхарка дома № 66 па вуліцы Леніна ў Івацэвічах. Званю да вас вось па якой прычыне. У падвале нашага дома абвалілася сцяна, добра, што не нарабіла бяды. Зайдзіце, пацікаўцеся, у чым справа. Страшна жыць у такім доме.*

*Ірына Васільеўна.*

Вось такі тэлефонны званок у рэдакцыю. Мы пацікавіліся, што ж такое здарылася ў падвале дзевяціпавярховага дома № 66 па вуліцы Леніна. Сапраўды, сцяна, вымураваная будаўнікамі ДБПМК-34, рухнула на падлогу, і чатыры сям'і дома засталіся без кладовак. Чаму ж такое адбылося? Дом пабудаваны нядаўна, усяго пяць гадоў таму.

Па-першае, як сказалі самі жыльцы дома, тыя перагародкі для кладовак былі вымураваны на вока і з самага пачатку пагражалі абвалам, але ж выстаялі аж пяць гадоў.

Па-другое, калі сцяна тая абвалілася, то цікавую рэч можна было заўважыць. Цэгла стала чыстай. Той застыўшы раствор абсыпаўся сабе, а цэгла сабе. Жыльцы дома, што прыйшлі ў падвал паглядзець, здзіўляліся, як гэтая сцяна яшчэ стаяла. Той раствор, які павінен быў змацаваць цагліны між сабой, нават не прыстаў да іх.

— Тут і не будаўніку зразумела, што і раствор амаль без цэменту, і муляр аказаўся невысокай класнасці, — сказаў адзін з мужчын.

А цяпер агрэхі тых гора-будаўнікоў выпраўляюць камунальнікі.

— Вось паглядзіце, які раствор нашы камунальнікі прывезлі, — сказала ўжо жанчына. — Хіба ён трымацца будзе?..

Ці будзе трымацца, пакажа час. Але факт застаецца фактам, што зробленае будаўнікамі ДБПМК-34 разбураецца. Так, у кватэры № 4 пайшлі трэшчыны па сцяне. Такія ж трэшчыны ёсць у іншых кватэрах. Што ж тычыцца іншых перагародак у падвале, то на чарзе ўжо і другая, даўжынёй метраў пяць і вышынёй каля трох метраў, якая ў любы момант можа ўпасці. Таму і не выпадкова, што жыльцы названага дома б'юць трывогу.

*С. КАЖАДУБ.*



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

